РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

*Дык жа дудам! На Беларусі -- беларусы жывуць!* Янка Купала

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 года.
№23 (55), кастрычнік, 2000 года.
Кошт па дамове




## Лясныя рабінзоны

**Сёлетні грыбны сезон, як ніколі, парадаваў багатым ураджаем баравікоў, падасінавікаў і лісічак. Але не заўсёды грыбныя паходы прыносяць радасць.**

Колькі страху нядаўна нацярпеліся бацькі трох 12-ці і 13-гадовых дзяцей з вёскі Курылавічы Шаркоўшчынскага раёна: дзеці пайшлі ў грыбы, заблудзіліся і ноч правялі ў лесе. Бацька аднаго з хлапчукоў, насабіраўшы кошык грыбоў, вярнуўся дадому. Каб знайсці дзяцей, прыйшлося звярнуцца ў міліцыю. Тры пошукавыя групы працавалі ў тую ноч. На шчасце, усё скончылася добра. Пасля доўгага блукання, дзеці выйшлі з лесу аж но ў суседнім Браслаўскім раёне.

*У. Шык*

## П`ём-с і апахмяляемся

**Сёння ў Беларусі на кожнага грамадзяніна, якому споўнілася 18 год, выходзіць у год 60 бутэлек гарэлкі і 80 віна.**

Прычым, калі ў людзей здараюцца ў жыцці значныя даты, купляюць у асноўным не шампанскае ці добрыя сухія віны, а якуюсьці таннейшую «бурду», ці п`юць самаробную «сівуху». А ад гэтых напояў не толькі галава баліць назаўтра ды сушыць, але і цягне апахмяліцца... Дзяржава свядома прадае добрае сухое віно па дарагой цане, каб яго не маглі дакупіцца простыя людзі, і свядома садзейнічае співанню нацыі. Гарэлка, як вядома, прыносіць нядрэнны скрыль у бюджэт, але чалавек і яго жыццё нашмат важней.

*П. Сяргеенкаў*

## І ціха, і пуста, і некаму рукі падаць

**Ні аднай жывой душы не сустрэнеш зараз на тэрыторыі некалі квітнеючага ў Паставах беларуска-амерыканскага СП «Імпульс».**

Мінулай восенню з-за неўраджаю ў краіне тут зачынілі млын, затым макаронны цэх. Гэтыя два падраздзяленні шматпрофільнай фірмы ратавалі ад разарэння іншыя цэхі і ўчасткі. З іх закрыццём рухнула ўсё. Адзін з саўладальнікаў -- самы багаты ў раёне калгас «Дружба» -- не дапамог прыватнаму прадпрыемству.

СП «Імпульс» не адзіная арганізацыя, якую дабіла эканамічная «палітыка» краіны. Закрылася прыватная аптэка, два магазіны, абменны пункт валюты. На вуліцы аказаліся людзі і без кавалка хлеба, і без надзеі на светлую будучыню.

*У. Шык*

## Літоўцы признаюцца ў супрацоўніцтве з КДБ

**1400 грамадзян Літвы прызналіся ў тым, што ў савецкі час супрацоўнічалі з КДБ.**

Тэрмін добраахвотнага прызнання скончыўся, усіх, хто не пажадаў прызнацца, чакаюць непрыемнасці. Імёны і прозвішчы іх будуць раскрыты, да таго ж былыя супрацоўнікі КДБ будуць звольнены з работы.

*К. Нявера*

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» ў Глыбокім**

**1060**

## Усяго патроху

### Падводны гатэль у Швецыі

Прыватны гатэль адкрыты на дне возера непадалёк ад Стакгольма. Па словах гаспадара, ён не пустуе. Далей у планах прыватніка стварэнне гасцініцы на... дрэве

### Мяч стаў круглейшы

У Вялікабрытаніі вынайшлі новы футбольны мяч, які мае 32 рабочыя паверхні замест 18 ранейшых. Гэта робіць мяч больш круглым і лятае ён хутчэй, чым яго папярэднікі.

### Грыб-велікан

Ён вырас у нацыянальным парку штата Арэгон. Яго ўзрост 2400 год. Зараз грыб займае 880 гектараў, яго карэнні ўваходзяць углыб на 1 метр. Грыб з`яўляецца «забойцам»: прысмоктваецца да карэнняў дрэў і тыя гінуць.

### Незвычайная аперацыя

Хірургі медыцынскага батальёна, апрануўшы бронекамізэлькі, зрабілі аперацыю салдату, у сцягне якога, зламаўшы костку, засела граната. Аперацыя пачалася ў спецыяльна падрыхтаваным катлаване. Спецыяльнай бранёй на выпадак узрыва быў прыкрыты і паранены. Гранату дасталі праз паўгадзіны.

### Памянём загінуўшых

У гарнізоне Відзяева, дзе жывуць родныя загінуўшых на атамаходзе «Курск» падводнікаў, вырашана пабудаваць праваслаўную царкву. За будаўніцтва адказвае адміністрацыя карэльскага горада Кастамукша.

### Не нацiскай на газ пад «газам»

Да цяперашняга не могуць забыць аварыі ў калгасе імя Дзяржынскага Мёрскага раёна. Гэта аварыя адняла жыцці двух чалавек. У нядзелю загадчык майстэрні не справіўся з кіраваннем на дарозе ля вёскі Хоцькава і на сваім «Опелі» зляцеў у кювет. Загінуў. Пазней у бальніцы памёр трактарыст гэтай гаспадаркі. Па віне нецвярозых вадзіцеляў адбыліся яшчэ тры дарожныя аварыі, у якіх загінула 5 чалавек. Для невялікага раёна гэта цяжкія лічбы.

*У. Шык*

## ЦЫТАТА НУМАРА

Францішак Сапега -- прадстаўнік славутага беларускага княжацкага роду, які ў 90-ыя гады XVIII ст. быў уладаром Друйскага графства так казаў аб сялянах:

**«Трэба захоўваць мяккасць і міласэрнасць, бо падданы занадта нешчаслівы, каб над ім здзекваліся і занадта карысны для свайго пана, каб дапускаць да яго несправядлівасць».**

18.10.1793 г.

**Слова пра няштатнага аўтара**

## Дапаможам бліжняму справай і словам

**Тамара Мікалаеўна Лагун доўгі час жыла ў Глыбокім, працавала настаўніцай біялогіі у СШ №2 горада.**

Мала хто з калег, а яшчэ менш з яе вучняў, ведаў, што Тамара Мікалаеўна была асуджана і саслана на катаргу за прыхільнасць да Саюза Беларускіх Патрыётаў. Яна нават не была сябрам арганізацыі. Гэта паўплывала на тэрмін -- ёй далі тры гады няволі. Тамара Мікалаеўна сёння з гонарам гаворыць пра тых, хто жадаў быць беларусам на сваёй радзіме, хто не скарыўся перад Ваенным трыбуналам, хто з гонарам пранёс званне чалавека. Былыя сябры і аднадумцы сёння жывуць па ўсім свеце. Сувязі падтрымліваюцца, больш таго, пачатую справу адраджэння бацькаўшчыны патрыёты працягваюць. 29 ліпеня гэтага Тамара Мікалаеўна была на Ўсебеларускім З`ездзе, які праходзіў у Мінску. Яна член Бабруйскай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Ужо які год Тамара Мікалаеўна жыве ў Бабруйску і як можа дапамагае сваім знаёмым, сябрам, нават зусім чужым людзям. У верасні па ініцыятыве асацыяцыі была праведзена акцыя «Ад чыстага сэрца -- хворым і бедным». Сябры асацыяцыі збіралі яблыкі, грушы і перадавалі хворым у бальніцы, у дзіцячыя дамы, школы, інтэрнаты. На працягу дзесяці дзён старыя, нямоглыя і адзінокія людзі знаходзілі гэтыя знакі ўвагі і былі ўдзячны за дапамогу.

А мы дзякуем Тамары Мікалаеўне за яе інфармацыю для газеты. Са слоў жанчыны, «Вольнае Глыбокае» чытаюць і ў Бабруйску, і ў Мінску, і ў Злучаных Штатах, і ў Германіі. Адна складанасць: дастаць газету цяжка. Разумеем. Спадзяёмся пашырыць сваю дзейнасць і дайсці да кожнага чытача з праўдзівым словам.

*Г. Сутула, г. Глыбокае*


Залескі парк над возерам Белым

Фота Ул. Скрабатуна

## Глыбокае -- не толькі залатое дно, але і парахавая бочка

Колькі год як глыбоцкая «хітрушка» (малы рынак) змяніла месца прыпіскі і стала суседкай Дома рамёстваў. Сотні людзей пераварочваліся тут -- куплялі, прадавалі, сустракаліся. І ніхто не ведаў, што месца гэтае пад завязку «напакавана» мінамі. 5 кастрычніка пры правядзенні земляных работ быў знойдзены склад зброі часоў другой Сусветнай вайны. Выкліканыя з пасёлка Межыца сапёры, дасталі з зямлі 308 мін, дзве з іх былі савецкай вытворчасці, астатнія -- нямецкія. Двое сутак ля Белага возера, непадалёк ад Глыбокага, гучалі ўзрывы, якія былі добра чуваць у розных кутках горада. Пару дзён «хітрушка» месцілася ў дворы кінатэатра «Радзіма», а зараз яна штодзённа працуе на тэрыторыі глыбоцкага нядзельнага рынку.

*З. Кот*

# Рэгіянальны экспрэс



## Аператыўнікі не сумуюць

**Упершыню за два гады пакінуў свой аўтамабіль без нагляду пад акном хаты прадпрымальнік з Пастаў.**

Праз гадзіны тры яго «Аўдзі 200» знікла ў невядомым накірунку. Месяц раней, бліз рынка,днём, укралі іншамарку работніка пракуратуры. Праз нейкі час злачынную групу з трох чалавек, што здзяйснялі крадзяжы з машын, арыштавалі, але машыны знойдзены не былі.

*У. Шык*

## Усім мірам змагацца лягчэй

**Невядома каму, але прыйшла думка адмяніць штодзённае курсіраванне прычапнога вагона «Мінск-Друя». Перапоўнены заўсёды вагон не мог быць беспрыбытковым.Але менавіта так тлумачылі людзям прынятае рашэнне.**

Зняцце вагона адразу ж стварыла шмат праблем і глыбачанам, і шаркаўчанам, і жыхарам сёл з гэтых і іншых раёнаў: білеты прыходзілася купляць загадзя, за месяц да паездкі, на выхадныя студэнты і навучэнцы не маглі прыехаць дадому, вяскоўцы па справах не траплялі ў сталіцу. У Шаркоўшчынскім раёне жыхары пачалі збіраць подпісы, каб вагон ім вярнулі. Соф'я Міхайлаўна Табола з Заазерцаў даслала ліст у «Народную газету», папярэдне пацвердзіўшы сумамі прыбыткаў тое, што вагон не мог быць стратным. «Народная газета» пісьмо не надрукавала, але пераадрасавала яго кіраўніцтву Беларускай чыгункі. 28 ліпеня С. М. Табола атрымала афіцыйны адказ за №285/1300 ад 19.07.2000 года, у якім значылася: «Ваша просьба аб курсіраванні вагона «Мінск-Друя» штодзённа кіраўніцтвам Беларускай чыгункі разгледжана. Паведамляем, што з 25 чэрвеня 2000 года указаны вагон курсіруе штодзённа.

І як тут не напомніць, усім: мірам бяду перажываць лягчэй, мірам і за сваё права змагацца працай.

**П. Сельская**

*Вясковыя праблемы*

## Конь і да каня

Даўно прайшоў той бум, калі беларусы, жывучы ў Саюзе і маючы грошы, цікавалі за аўтамабілямі: запыт быў, а прапанова адсутнічала. Тады «калёсы «мець лічылася прэстыжна, зараз многія зразумелі, што аўтамашына -- гэта не раскоша, а ўсяго толькі цывілізаваны сродак руху. Ужо пры «дэмакратыі» землякі набывалі аўтамабілі замежнай вытворчасці, «паношаныя», патрыманыя, але такія вынослівыя і зручныя.

Многія вадзіцелі пры выбары маркі сцвярджалі: «Хто хоць раз сеў за руль іншамаркі, на айчынныя і глядзець не будзе».

Апошнім часам заробкі нашых грамадзян сталі больш чым сціплыя, а дзяржаўныя вынаходніцтвы тыпу дэкрэтаў ды загадаў, якія то абмяжоўваюць, то забараняюць дайшлі да абсурду- - за іншамарку людзі плацілі менш, чым за растаможку. І наплыў «калёс» рэзка зменшыўся. Урон грамадзянам, урон размазні-дзяржаве, якая, хочучы занадта шмат, перакрыла свае валютныя прыбыткі ад халавога аўтамабільнага бізнесу.

А затым уладальнікаў «калёс» яшчэ больш прыціснулі цэны на запчасткі, прыдуманая страхоўка транспартных сродкаў...

Многія пачалі збываць матацыклы, машыны і перасядаць на веласіпеды ды коней, асабліва на вёсцы. Але на кані без павозкі не паедзеш. Некаторыя перапрафіліраваліся і заняліся вырабам павозак на гумовым хаду. Работа хоць і ручная, але выканана на «выдатна» -- павозка моцная, ладная, гума сцішае ход, калёсы не тарарахаюць на выбоінах... Каштуе такое задавальненне ў Глыбоцкім раёне ад 140 да 160 тысяч «зайчыкаў» ці столькі ж ў «зялёным» эквіваленце. Пакуль тая дзяржава развернецца, дапетрыць, што працаўніку-вяскоўцу трэба,



вясковец наладзіць бізнес хутка і аператыўна. Колькі б карыснага і нашмат таннейшага за дзяржаўнае зрабілі б рукі, вынайшаў бы розум беларусаў, каб іх увесь час не зацугялі «адміністратыўным камандаваннем», каб была свабода выбару, умераныя падаткі ды належная плата за работу.

*С. Воранава, Глыбоцкі раён*

# Беларускі салавей




**Марка, якую беларуская пошта выдала з нагоды 100-ых угодкаў Міхася Забэйды-Суміцкага**

*Становяцца крылы сівей і сівей,*
*Адзін на чужым узбярэжжы начуе.*
*І толькі бядуе стары Салавей*
*Што дома ніхто яго песень не чуе.*

*С. Грахоўскі*

У чэрвені 2000 года споўнілася 100 год з дня нараджэння нашага славутага земляка, спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. У 30-ыя гады яго цудоўным голасам захаплялася ўся культурная Еўропа. Музыказнаўцы і крытыкі ставілі яго імя сярод імён вядомых Ціта Скіпа і Леаніда Собінава. Міхась Забэйда-Суміцкі выступаў на лепшых оперных сцэнах: у Харбіне, Мілане («Ла Скала»), Познані, Празе, ён спяваў на 18 мовах свету. У яго рэпертуары былі і родныя беларускія песні. Праз іх слухачы Еўропы пазнавалі Беларусь... Так сталася, што наш зямляк, які пакарыў свет сваім вакальным майстэрствам, на радзіме быў мала вядомы і ўсё жыццё пакутаваў удалечыні ад бацькаўшчыны.

21 снежня 1981 года Забэйда-Суміцкі памёр. Пахаваны ён у Празе на Альшанах. На помніку пазначаны развітальныя словы на беларускай і чэшскай мовах: **«Жыў песняй і песняй даваў людзям радасць».**

Міхась нарадзіўся 14 чэрвеня 1900 года ў вёсцы Падорск Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці ў беднай сялянскай сям`і, якая нават кавалка ўласнай зямлі не мела. Яго бацька Іван Андрэевіч Забэйда, селянін з вёскі Несцяровічы, быў здольным у працы чалавекам, прыгожа спяваў. Праўда, памёр ён тады, калі Міхасю не было і двух год. Маці Аляксандра Феліксаўна (дзявочае прозвішча Суміцкая, якое пазней дарослы сын далучыць да бацькавага і з гонарам пранясе праз усе выпрабаванні) пахадзіла з Шэйпіч. Семярых дзетак нарадзіла яна, але толькі Міхась выжыў. Як падрос крыху, працаваў у маёнтку пана Бранца: паганяў коней у малатарні, зграбаў сена, вязаў за жняяркаю снапы. Хоць Аляксандра Феліксаўна была непісьменная, але сынка вучыць старалася. Спачатку ён два гады наведваў курсы граматы ў вёсцы Шэйпічы, затым вучыўся ў аднакласнай школцы Зельзін, пазней перайшоў у двухкласную царкоўнапрыхадскую школу ў Галоўчыцах. Вучыўся добра і без цяжкасцей паступіў у Маладзечанскую семінарыю, атрымоўваў за выдатныя поспехі дзяржаўную стыпендыю. Але вучобе перашкодзіла першая Сусветная вайна.

У 1918 годзе Міхась выехаў у Сібір, дзе працаваў настаўнікам. У 1919 г. ён апынуўся ў Маньчжурыі, у Харбіне -- на той час цэнтры музычнай культуры. Сюды прыязджалі з канцэртамі Эльман,Мянухін, Шаляпін. У Харбінскай оперы пачынаў сваю кар`еру спявак Лемешаў.

Яшчэ займаючыся ў гімназіі, Міхась вывучыў тэорыю музыкі, спяваў у хоры, крыху вучыўся дырыжыраваць. У Харбіне ён пачаў працаваць над пастаноўкай голасу. З Міхасём займалася прафесар Ю. К. Плотніцкая, былая супрацоўніца Ф. Шаляпіна. Адначасова хлопец вучыўся на эканамічным аддзяленні Харбінскага універсітэта. Пасля заканчэння ВНУ яму прапанавалі пасаду асістэнта на кафедры эканомікі. Але Міхась адмаўляецца ад пасады і ідзе ў оперу. Трапіць туды дапамог выпадак. Спявак Шуклін парушыў кантракт і з`ехаў у Шанхай. Тэрмінова шукалі артыста на партыю Ленскага ў оперы «Яўгеній Анегін». Міхась на «выдатна» здаў гэты «экзамен» і яго залічылі ў трупу. За тры гады працы ён выканаў 15 адказных партый. Пра яго загаварылі ў музычных колах, крытыкі прарочылі яму славу. А спявак ужо марыў аб Італіі і паціху збіраў грошы на паездку. У 1932 годзе яго мара здзейснілася. Фернанда Карпі, спявак і педагог, колішні паплечнік знакамітага Карузы, прыняў яго ў сваю школу.



**Бацькоўская хата**
**Міхася Забэйды-Суміцкага ў Шэйпічах**

Працалюбства маладога беларуса здзіўляла італьянца: «Вы ў мяне за два тыдні зрабілі тое, што іншыя не зробяць і за паўгода. Каб мы , італьянцы, мелі вашу працаздольнасць, дык заваявалі б увесь свет»

Дзякуючы пратэкцыі Ф. Карпі, Забэйда-Суміцкі трапляе ў міланскую оперу «Ла Скала». Ён першы беларус, які выступаў на гэтай сцэне. Здавалася б, чалавек дасягнуў такіх вяршынь..., але беларус нудзіўся без радзімы. Аднойчы атрымаў з Шэйпічаў вестку, што захварэла маці. Ён пакідае Італію і едзе дадому. На радзіме даў першы канцэрт. У прысутнасці маці ён праспяваў калыханку, якую малому спявала яна сама. Авацыю апладысментаў тады маці і сын падзялілі на дваіх.

Пазней Забэйду-Суміцкага запрасілі ў Познаньскую оперу. Пасля заканчэння кантракту, перайшоў на эстраду, бо не мог згадзіцца з умовамі польскіх шавіністаў ад культуры -- нідзе і ніколі не ўспамінаць, што ён беларус. Абяцалі за гэта, як «паляку», вялікія ганарары і гастролі ў Еўропе і Амерыцы.

«Адмовіцца ад свайго народа, ад роднай мовы тое самае, што адмовіцца ад маці,-- адказаў спявак. -- **Я -- беларус і беларусам памру».**

У яго канцэртах узнёсла і мілагучна гучалі беларускія песні «Малады дубочак», «Лявоніха», «Кукавала зязюля»...

«Мелодыі нашага народа адкрывалі мне дарогу да людскіх сэрцаў,-- казаў артыст, -- хоць гэтая дарога не абяцала вялікай кар`еры ў Польшчы, я не мог жыць без роднай матчынай песні, я нёс яе ў свет, паказваў яе красу, узбагачаючы ёй сусветную культуру»

У 1940 годзе Міхась пакідае Варшаву і едзе ў Прагу. Там яго запрасілі ў народны тэатр. У час нямецкай акупацыі яго абвінавацілі ў прапагандзе агульнаславянскіх ідэй. У 1944 годзе па хлуслівых абвінавачваннях ён трапіў у турму. Пасля вайны спявак чакаў калі ж яго запросіць дадому радзіма. Толькі ў 1963 годзе беларускія культурныя дзеячы Шырма, Александроўская, Глебка, Броўка змаглі афіцыйна запрасіць спевака на гастролі, дзе ён даў 11 хвалюючых канцэртаў. Адбыўся канцэрт і ў Віцебску.

17 траўня 1963 г. спявак прыехаў у горад. Ён спяваў і размаўляў са слухачамі, расказваў пра сябе, пра маці, пра паездкі і гастролі. Ён быў бязмежна рад ад знаходжання на роднай зямлі. **Мікола Плавінскі з Віцебска** дачакаўся Забэйду-Суміцкага пасля канцэрта, выказаў яму словы ўдзячнасці за талент і запрасіў яшчэ раз прыехаць у Віцебск.

На гэта спявак адказаў: «Гэта, хлопча, не ад мяне залежыць. Я ў вашым цудоўным горадзе гатоў спяваць калі трэба і колькі трэба».

Звыш сарака год пражыў ён у Празе. Быў пастаянным членам Саюза музыкаў. Падрыхтаваў і выхаваў шмат спевакоў.

Віцябчаніну **Міколу Плавінскаму** пашчасціла перапісвацца з маэстра. Яго лісты спрыялі самаадукацыі нашага земляка, вучылі любіць, шанаваць бацькаўшчыну, паважаць мову і не адракацца ад яе.

***Дзякуючы М. Плавінскаму «Вольнае Глыбокае» змяшчае гэты матэрыял і яшчэ раз заклікае ўсіх землякоў быць шчырымі і не цурацца сваёй Беларусі.***

***

**Ад рэдакцыі:** краязнаўца Мікола Плавінскі браў удзел у навукова-краязнаўчай канферэнцыі, якая адбылася 17 верасня 1991 года ў Глыбокім, дзе выступіў з дакладам, які быў прысвечаны мінуламу Глыбоччыны.



Кур'ёзы нашага жыцця

# Набірайце правільны код

Як чалавек, у якога ўсё ў парадку з логікай, як чалавек, які, займаючыся ў ВНУ нават здаваў экзамен па логіцы, я заўсёды, мне так здавалася, раблю так, як робяць людзі ва ўсім свеце. Не ведаю нумара нейкага тэлефона -- званю ў службу даведак. Там скажуць. Напісана: не кідайце смецця ці не курыце -- так і раблю, а як жа інакш? Але чым больш жыву, тым больш пераконваюся ў тым, што большасць людзей жыве па прынцыпу: калі паказваюць направа, трэба ехаць налева». У нас і загады па гэтаму прынцыпу пішуцца і чыноўнікі многія згодна яго працуюць.

Нядаўна мне трэба было патэлефанаваць у Наваполацк, а нумара не ведаў. Як чалавек са здаровай логікай ўзяў глыбоцкі тэлефонны даведнік, паглядзеў код горада (244), нумар «справочной» і патэлефанаваў. Нумар патрэбны атрымаў і пачаў яго набіраць, але, як не біўся, увесь час трапляў на кватэру да нейкага яўрэя, які на мой запыт: «Які Ваш нумар тэлефона?», манатонна адказваў: «Які набіраеш, такі і будзіт». І я вырашыў, што «справочная» дала мне не той нумар, патэлефанаваў яшчэ раз туды. Тое, што я пачуў, навяло мяне на думку: каб жыць у Беларусі і датэлефанавацца з Глыбокага ў Наваполацк мне адной ВНУ і ведаў па логіцы мала. Мне яшчэ трэба вучыцца на нейкага астролага-прагаміста. «Справочная» на маё пытанне: «Чаму я не магу дазваніцца?» адказала: «А потому что вы неправильно набираете код».

--Як няправільна?-- здзівіўся я і паглядзеў яшчэ раз у даведнік. Чорным па беламу там значылася: Наваполацк -- 244. «Справочная» працягвала: «От цифры этого кода нужно отбросить последнюю четвёрку».

-- І куды яе?-- перапытаў я.

-- Никуда. После кода 24 сразу набирайте номер.

Сапраўды, па патрэбным нумары пасля тлумачэння я дабіўся-такі. Але закралася іншая думка: калі ў даведніку, выдадзеным дзяржавай, такія недагаворы, тайны, то ці можна, наогул, верыць такому даведніку? Адкуль я магу ведаць, што ад наваполацкага кода трэба адкідваць апошнюю чацвёрку? А можа першую двойку?

Пасля гэтага здарэння я з недаверам гляджу на цэннікі у магазінах і ўсё прыкідваю, якую б гэта лічбу мне адкінуць, спераду ці ззаду, каб патрэбны тавар можна было купіць...

*М. Пяскоўскі*



Фота Ул. Скрабатуна

# Крыўда за «цёмную» інтэлігенцыю

Неяк давялося размаўляць з вясковай настаўніцай. Гутарка цяпер вядома пра што: пра жыццё-быццё. Хоць і не сустракаліся раней з жанчынай, але неяк адразу сышліся на тым, што жыццё складанае, цяжкае, беспрасветнае. Згода ў гутарцы была да таго часу, пакуль я не сказаў, што ва ўсіх нашых бедах вінаваты людзі, якія ўзяліся «канём кіраваць, а як правільна гэта рабіць -- не ведаюць». Не нібы падмяніў хто: яна пачала абараняць гэтых няўмелых «ездакоў».

Працаваць трэба, а не лынды біць,-- сказала яна.

-- Ну не даюць грошы, у лес трэба ісці, ягады збіраць, грыбы, агарод садзіць, рыбу лавіць.

--А жыць калі? Любімай справай займацца?-- пацікавіўся я.

-- Якая любімая справа? Расці бульбу, палі, касі -- пражывеш. І ўся любімая справа.

-- Але ж я спецыяліст іншага профілю. І вучыўся не на трактарыста і не на інжынера,-- сказаў я.

-- Ну дык што табе гультаём трэба быць?-- не сціхала яна. -- Схадзіў на работу, а пасля работы колькі чаго яшчэ зрабіць можна!

-- Пасля работы ўсе людзі ў цывілізаваных краінах адпачываюць. Ды і на рабоце працуюць не за грашы, а за грошы, на якія можна годна пражыць. Я не супраць працы, змалку працую, але ж можна рабіць работу за тысячу ў дзень, а можна і за дзесяць...

-- Гультаі Вы,-- заключыла жанчына. -- Я сама настаўніца, агарод маю, зямлі з гектар, каровы, свінні. Ні ў кога есці не прашу і прасіць не буду. Для мяне мой урад не вораг...

Мне чамусьці стала сумна. Пярэчыць ёй не хацелася, бо яна, гэта сельская, замардаваная каровамі і свіннямі настаўніца, іншага жыцця мала таго, што не ўяўляе, але і не хоча ўяўляць.

А цяпер падумаем пра іншае: чаму ў вясковых школах медалістаў менш, чым у вялікіх гарадах, чаму веды, ацэненыя ў вясковай школе на «выдатна», на экзаменах у ВНУ ацэньваюцца на «тры» і ніжэй? Ды таму, што вясковы (ды і той жа глыбоцкі) настаўнік думае не пра тое, як бы адпачыць, у вольны час павысіць свой прафесійны ўзровень, нешта новае пачытаць, некуды з'ездзіць, нешта пабачыць. Задушаны праблемай выжывання, ён думае што даць свінням, дзе накасіць на карову, як выплаціць соткі, чым накарміць дзяцей -- зарплату ж у час не даюць.

Уліўшы свінням, вычысціўшы гной, напалоўшыся, настаўніца бяжыць у школу, каб, да прыкладу, расказаць пра ўзнёслае каханне Наташы Растовай...

Які будзе расказ, з якім пачуццём, з чым новым, цікавым -- вядома...

Згодна, што сельская настаўніца есці ні ў кога не просіць, але і «накарміць» ежай духоўнай ні сябе, ні тым больш сваіх вучняў, яна не здольна, бо сама, як кажуць, небагатая...

Чалавек, інтэлігент з такімі нізкімі рабскімі запатрабаваннямі, не зможа выхаваць свабоднага, упэўненага ў сабе грамадзяніна. А можа гэта не так?

**С. Крывіцкі,**
Глыбоцкі раён



Гумарэска

# Жыццё, падобнае на сон

Апошнім часам жыццё Сямёна Прыкідайлы нагадвала блін, які ўпершыню пякла няўмелая гаспадыня: то там рвецца, то там падгарае, то там кісла, то там не падпечана. Яно і не дзіва: краіна, спехам накінуўшы дэмакратычны прыкід, паўбосая, у стоптаных, як у яго, Сямёна, яшчэ савецкіх шкарпэтках рушыла ў рынак.

-- А той рынак, падла,-- думаў не раз мужчына,-- як Якімаў сабака: ідзеш прыфранчоны, адэкалонам смярдзіш -- не чапае, калі ж у зрэбных штанах і ў нямытай з месяц кашулі ды яшчэ няголены ў дадатак, аж ланцуг рвецца -- шалее. А дзе ж ты цяпер на смокінг заробіш, калі ў калгасе адны вілы на чацвярых і тыя бяззубыя, як стогадовы Ігнась? Не стала работы. І яго, Сямёна, паўгода ўжо як звольнілі. Начальнік сказаў, што рынак маладых любіць і набраў сабе ў кантору дзяўчынак пасля школы.

Нічога Сямён не зразумеў, але з таго часу рынак стаў уяўляцца яму цялеснай асобай, чамусьці вельмі падобнай на старшыню: асобай пры шляпе, у акулярах, асобай пузаценькай, непаваротлівай і ў той жа час відушчай і лісліва-крутой, калі бачыў маладзіц у кароткіх спадніцах. Ці разумны будзе той рынак Сямён не ўяўляў, але лічыў, што такі ж, як іхні старшыня. Той не мог адрозніць ячмень ад пшаніцы, карову ад быка, трактар ад камбайна, але затое ведаў памеры станікаў усіх сваіх супрацоўніц...

Але старшыня старшынёй, а Сямён Сямёнам. Стаў Сёмка «хатняй гаспадыняй». Гэта яго так Зося падзыквала. Пойдзе на ферму, а на яго ўсю гаспадарку кідае: і агарод, і цяля, і карову, і свінней, і араву гусей ды індыкоў. Прачнецца Сямён - у жываце сімфанічны аркестр фугі Баха без заяўкі выконвае. Выйдзе на ганак, а тут уся яго гаспадарка дружна, як па камандзе, пад ногі кідаецца, каб есці даў. Сямён ногі ў рукі і ходу ў хату. За стол сядзе, а там на першае -- халаднік з бацвіння, на другое -- бульба парапная. Жонка яе ў адным катле варыць і сабе, і скаціне.

Пачухае Сямён патыліцу пад песню «Любовь, похожая на сон», якую рыжая накормленая Алка спявае і думае: «У яе каханне, як сон, а ў мяне і сны, нібы жыццё, страшныя ды кашмарныя».

Калі паразважаць, то сны, звычайна, у людзей прыгожыя лёгкія. Як здзяйсненне усіх надзей і мар. У такім сне хоць крыху на праблемы забудзешся. І ўсё ж змены, якія адбываюцца ў краіне, не пашкадавалі нават сны. Ружовыя колеры і фантазіі зніклі, што тыя Саветы, а іх месца заняла «вертыкаль»: сны пачалі сніцца сацыяльныя, палітычныя, сексуальныя. У каго якая праблема ў жыцці такі і сон...

Не так даўно Сямён пачаў заўважаць, што з ім робіцца нешта незразумелае. Нядаўна, да прыкладу, прысніў, што купіў у магазіне цэлыя тры кілі цукру. Раніцой прачнуўся -- на стале тое ж ахрап'е. Ён за кубак, хацеў кавы папіць, хапу-лапу -- цукру няма. Так шукаў у шкафчыках, так шукаў -- няма. А добра ж памятае, што прынёс і сюды яго паклаў. Можа Зося перахавала?... Толькі вечарам дайшло, што сон прыняў за чаканую рэальнасць.

Ці яшчэ. Сніцца Сямёну, што яму на рабоце прэмію далі, што ён яе ў жончын туфель схаваў, каб пасля бутэльку-другую купіць... Раніцой бягом да шафы. Мацаў, мацаў туфель і трос, і ліхтарыкам у яго свяціў -- каб табе капейка. Так расхваляваўся, аж сэрца зацяло. Жонка з фермы прыйшла, ён ёй сваю крыўду і выказаў -- вайлак на руку і гэтым вайлакам ёй па мордзе, па мордзе, каб не хавала яго кроўныя. Да яго ўсё дайшло толькі тады, калі Зося, выскачыўшы з хаты, пабегла вуліцай з крыкам: «Ай, бабанькі, алунеў мой, з глузду з'ехаў, у Слабодку трэба».

Падняла гаведар на ўсю вёску, смеху нарабіла. А Сямён не на жартачкі перапалохаўся: калі ўжо сны такія падобныя на жыццё пачалі сніцца, то калі і дзе тады расслабіцца, забыцца пра гэтую брыдзіну жонку ды пра наскрозь чарвівае быццё?

Ішоў час, а Сямёнава жыццё, што тая вужака, слізгалася паміж усё новых, у калена, ні абысці, ні пераступіць, жыццёвых купін. Здавалася б, у цёмным Сямёнавым тунелі так і не з'явіцца доўгачаканае святло, але аднойчы...

Раптоўна вёска загаварыла пра незамужнюю саракагадовую Анцю, якая збіраецца... нарадзіць без мужа.

-- Жывот ужо выпукнуўся, а яна і не хаваецца бессаромніца, пасміхаецца толькі,-- кудахталі, седзячы на лаўках і стоячы ў барознах, вяскоўкі. -- Калі нараджу,-- кажа,-- мужык сам прыйдзе, вось пабачыце. І хто гэта ёй прыстроіў?

Бабы губляліся ў здагадках. Усю ваколіцу перабралі, усім мужыкам костачкі перамылі, а адказу так і не знайшлі...

У канцы лета Сямёну прысніўся сон. Ён, малады і прыгожы, на возеры. А ў ім купаецца маладзіца. Ці не Анця?... Яна, мусіць. Голенькая, у чым маці нарадзіла. Боўтнецца ў ваду, пацялёпкаецца крыху і падскоквае, як каза, выстаўляючы сваё пышнае дзявоцкае багацце. Туман ёй плечы агортвае, але з-за куста Сямёну ўсё добра бачна. А затым... Затым у Сямёна закруцілася галава. Яе цела раптам слізганула пад яго кашулю... Сухое, яно вокамгненна набрыяла і расплылося ад жаночых ласк. Цёплыя пухлыя вусны аж кусаюцца... Усё здарылася нечакана, але было так прыемна -- млявасць, нібы чарка добрай гарэлкі, апаліла і расслабіла яго.

Прачнуўся Сямён ад таго, што на падушку пацяклі слінкі. Доўга ляжаў, прыкідваючы: «Было ці не было»?

Прыйшоўшы з фермы, жонка з-за парога, нібы камянём кінула, агаломшыла навінай: «Анця сына нарадзіла. Хоць на старасці баба свярбун сагнала. Цяпер чакае, што мужык прыйдзе».

Сямён нібы іголку пад пазногаць усадзіў.

-- Гэта ж трэба,-- не даваў ён сабе веры, блытаючыся ў сне і наяве,-- толькі сёння саграшылі, а яна ўжо гэта... Акселерацыя...

Невядома хто пацягнуў яго за язык, але ён увесь свой сон расказаў Зосі. Тая, як даставала кацёл з печы, так з ім і села ля пліты. Параная сабе і свінням бульба пакацілася Сямёну пад ногі.

І раптам жонка «ўзарвалася». Схапіла галень і, як каршун, насела на мужыка.

-- Кажаш сон, валацуга пракляты? З работы сышоў спецыяльна каб быў час да яе бегаць? Гэта, значыць, пакуль я на ферме ты з Анцяй?

Яна хвастала мужыка гальнём, а ён толькі мычаў з перапуду.

--Я цябе, гультая, гадаваць не буду. Спаў з ёй -- няхай яна цябе і корміць. Збірай манаткі і дуй з хаты.

Зося скончыла «абстрэл» тады, калі Сямён заціснуў пад пахай стары сакваяж з бярозавым венікам і пайшоў да Анці. А тая, знудзіўшыся без моцнай мужыцкай рукі і без рупнага гаспадара, нібы чакала яго: і чарку паднесла, і скварку, і сына паказала. І тут ужо Сямён паверыў, што яго сон быў зусім не сон, а самая што ні на ёсць праўдачка.

Ён па-гаспадарску ўзяўся і за работу, і за бабу, і за хлапчука. Жыве не тужыць: днём чакае невераготнай ночы, а ночу шчаслівага дня. Памаладзеў ажно чалавек, папрыгажэў і зусім не бядуе, што некалі, адурнеўшы, дужа паверыў у сон.

*Галіна Сутула*

